Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА




11 чэрвеня 1991 г.
АЎТОРАК

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

№ 112 (21640)

Цана 10 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### ЦІ ЛЁГКА БЫЦЬ ПЕНСІЯНЕРАМ?

**МАГІЛЕЎ. (А. Санчук). Ва ўмовах росту цэн, інфляцыі і іншых спадарожнікаў эканамічнага крызісу цяжар гадоў, які нясуць на сваіх плячах пажылыя людзі, намнога павялічваецца. Хоць крыху зменшыць яго імкнецца Магілёўскі гарвыканком.**

У адпаведнасці з яго рашэннем з 15 мая пенсіянеры атрымалі права на бясплатны праезд ва ўсіх відах гарадскога транспарту, за выключэннем таксі. У першую чаргу пенсіянерам выдзяляюць зямельныя ўчасткі для вырошчвання гародніны. Ва ўсіх раёнах горада для іх арганізуецца гандаль таварамі па сацыяльна нізкіх цэнах.

### ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

Інстытут гісторыка-палітычных даследаванняў КПБ свой 70-гадовы юбілей адзначыў пашыраным пасяджэннем вучонага савета. Яго дырэктар Р. Платонаў, які выступіў з дакладам, адзначыў, што на працягу гэтых гадоў уся навуковая дзейнасць калектыву была цесна звязана з палітыкай Кампартыі Беларусі, яе арганізатарскай і прапагандысцкай работай у масах. Здараліся і перамогі, і паражэнні.

Калектыў Інстытута не змог пазбегнуць скажонай трактоўкі рада падзей і фактаў ранейшай гісторыі, ідэалізацыі рэчаіснасці, адыходу ад вострых праблем, якія хвалявалі і хвалююць грамадскасць рэспублікі. Але несумненнай заслугай інстытута стала рэабілітацыя імён многіх рэпрэсіраваных камуністаў.

На пашыраным пасяджэнні вучонага савета інстытута выступіў член Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі А. Малафееў. (БЕЛТА).

### ШКОЛА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

**По рашэнню ўрада рэспублікі створана акадэмія кіравання—тут будуць вучыць вучоных.**

Абітурыентамі новай, гаспадарча-разліковай навуковай установы могуць стаць толькі людзі з вышэйшай адукацыяй — кіраўнікі ўсіх узроўняў і рангаў, спецыялісты з розных галін, прадпрымальнікі, «новаспечаныя» бізнесмены і нават прыватныя асобы, якія пажадалі асвоіць азы беспройгрышнага гаспадарання ва ўмовах рынку. Дысцыпліны: менеджмент, маркетынг, міжнародны маркетынг, прадпрымальніцтва, права, валютна-фінансавыя аперацыі, інфарматыка, замежныя мовы. У Акадэміі прадугледжаны стацыянар і завочнае аддзяленне, аспірантура, стажыроўкі за мяжой.

### АХВЯРЫ АГНЮ

**МІНСК. (Л. Прыступчык). За мінулыя два дні ў рэспубліцы адбылося 45 пажараў. Страты ад агню — 49 тысяч рублёў. Знішчаны і пашкоджаны 31 аб'ект. У агні загінулі трое.**

У многіх выпадках прычынай загаранняў стала п'янства, бяспечнасць з агнём, а то і проста хуліганскія выхадкі. Так, у Калінкавічах грамадзянін Іван Свірыдаў, які быў у нецвярозым стане, учыніў скандал. А калі выклікалі міліцыю, ён абліў бензінам маёмасць і падпаліў. У агні загінуў капітан міліцыі Пётр Піліпец, які ўзначальваў аператыўную групу, і сам віноўнік пажару. Яшчэ чацвёра атрымалі апёкі. Адзін з іх —работнік міліцыі Міхаіл Бойка.

### КАБ АМАЛАДЗІЦЬ ВЁСКУ

**АКЦЯБРСКІ РАЁН. (Г. Лоўгач). Сёння ў калгасах і саўгасах раёна працуе 620 механізатараў, 948 жывёлаводаў і 471 спецыяліст. І толькі пятая частка іх — гэта людзі ва ўзросце да трыццаці гадоў. Вёска старэе. І калі не амаладзіць яе, — то хто ж будзе нас карміць?**

Адносна гэтага і ішла размова ў мясцовым СПТВ-181. А ўдзельнікі гэтай сустрэчы з навучэнцамі — кіраўнікі гаспадарак, работнікі райкома партыі, райвыканкома, РАПА. Вызначаны меры па паляпшэнню сацыяльна-бытавых умоў вяскоўцаў, канкрэтнай дапамозе моладзі.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ ПРЫНЯЛА РАШЭННЕ

**НАВАГРУДАК. На буйнейшым у горадзе прадпрыемстве — металавытворчым аб'яднанні — адбыліся нечарговыя перавыбары прафсаюзнага камітэта. На гэтым настаялі ўдзельнікі канферэнцыі працоўнага калектыву.**

У віну старому саставу прафкома ставілася яго адарванасць ад праблем рабочых, яго поўная залежнасць ад адміністрацыі, захопленасць гэтай арганізацыі неўласцівымі ёй функцыямі і многае іншае.

У саставе прафкома — 17 членаў, 13 з іх выбраны ўпершыню па рэкамендацыях цэхавых сходаў.

Адначасова канферэнцыя выказалася за вывад з тэрыторыі прадпрыемства партыйнага і камсамольскага камітэтаў. На думку завадчан, гэта павінна паставіць у аднолькавыя ўмовы новыя палітычныя партыі. Ці палепшыцца толькі ў сувязі з гэтым эканамічнае становішча прадпрыемства?

**ГАЗЕТА ВЫСТУПІЛА. ШТО ЗРОБЛЕНА!**

### МАГАЗІН БУДЗЕ АДКРЫТЫ

**26 сакавіка ў «Звяздзе» пад рубрыкай «Ваша пісьмо атрымалі» быў змешчаны адказ намесніка старшыні Гомельскага аблспажыўсаюза А. Аліярніка аб тым, што на станцыі Уза Буда-Кашалёўскага раёна плануецца адкрыць магазін для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны ў красавіку.**

**Аднак днямі аўтар пісьма В. Грыцанок пазваніў у рэдакцыю і спытаў, чаму мінуў красавік, май, ідзе чэрвень, а гэта гандлёвая кропка па-ранейшаму не адкрыта.**

**Рэдакцыя адразу звязалася з Гомелем і гэта пытанне адрасавала аблспажыўсаюзу.**

**І вось учора атрымана тэлеграма:**

«Мінск, Ленінскі праспект, 77, рэдакцыя «Звязды».

Магазін для гандлёвага абслугоўвання перасяленцаў пасёлка Уза Буда-Кашалёўскага раёна будзе адкрыты да 20 чэрвеня 1991 года. Намеснік старшыні аблспажыўсаюза Аліярнік».

Тэлеграмы з такім жа зместам накіраваны таксама В. Грыцанку і Гомельскаму аблвыканкому. За дапушчаную недакладнасць кіраўніцтва аблспажыўсаюза просіць прабачэння ў рэдакцыі газеты «Звязда» і ў яе чытачоў.



## Там, на беразе Віліі...

Пакуль сёй-той разважае, патрэбны піянерскія арганізацыі ці не, Смаргонскі завод аптычнага станкабудавання, выдзеліўшы 2,5 мільёна рублёў, пабудаваў для дзяцей сваіх рабочых цудоўны піянерскі лагер. Зрэшты, грошы грашыма, але хто б ведаў, чаго каштавала яго ўзвядзенне дырэктару завода Сяргею Аляксандравічу Пелеху! 10 гадоў за праект не хацела брацца ніводная будаўнічая арганізацыя, а калі 41-ы трэст, дзякуючы разуменню яго кіраўніка Яўгена Міхайлавіча Станкевіча ўзяўся, то клопаты перайшлі ў іншую плоскасць — прабівання матэрыялаў, увязвання розных няўвязак і г. д.

Затое зараз, калі ўсё гэта ззаду, як хораша малым ва ўтульных катэджах на беразе Віліі! Адпачынак кожнага дзіцяці каштуе каля 800 рублёў. Многа? Але ж толькі на харчаванне ў дзень кожнаму выхаванцу адпускаецца 7 рублёў 75 капеек. У меню акрамя звычайных страў — вафлі і цукеркі, тарты і марожанае. Але бацькам адна пуцёўка ў лагер абыходзіцца ўсяго ў 15 рублёў.

А з восені да лета тут будзе прафілакторый для рабочых завода, а таксама мяркуецца праводзіць саюзныя і міжнародныя навуковыя канферэнцыі, якія завод пачынае склікаць рэгулярна.

Я. ЧАПЛЯ.

**НА ЗДЫМКУ: піянерскі лагер адкрыты! Гэта ўрачыстасць не толькі для дзяцей, а і для дырэктара завода С. ПЕЛЕХА і піянерважатай Г. СОМАВАЙ.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

## Мы бяром — яны аддаюць

У Мінску завяршылася сустрэча беларускіх і нямецкіх прадпрымальнікаў, якая працягвалася два дні і была прысвечана перспектывам знешнеэканамічнага супрацоўніцтва Беларусі і аб'яднанай Германіі. Яе арганізавала Гандлёва-прамысловая палата БССР сумесна з Федэральным саюзам экспарцёраў і федэральным Міністэрствам эканомікі ФРГ.

Буйнейшымі партнёрамі БССР на Захадзе доўгі час былі менавіта ГДР і ФРГ, прычым пасля іх аб'яднання аб'ём знешнеэканамічных сувязей паміж бакамі прыметна ўзрос. Цяпер у Беларусі зарэгістравана больш як 1.500 самастойных удзельнікаў знешнеэканамічнай дзейнасці, якія актыўна шукаюць дарогу на рынак Германіі і якім нямецкі бок узяўся дапамагчы. Праўда, як заўважыў старшыня Федэральнага саюза нямецкіх экспарцёраў пан Мюлер, у рэспубліках цяпер праходзяць процілеглыя працэсы. «Вы дабіваецеся ад Масквы самастойных правоў, а мы добраахвотна перадаём гэтыя правы ў Брусель, у штабкватэру Еўрапейскага эканамічнага супольніцтва, без думкі якога ў большасці выпадкаў не можам дзейнічаць самастойна».

**(Кар. БЕЛТА).**

## Прыбыццё ў Беларусь пасла Рэспублікі Карэя

Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Карэя ў СССР Гон Ро Мён з жонкай прыбылі 10 чэрвеня ў Мінск. У той жа дзень пасол нанёс візіт Старшыні Вярхоўнага Савета БССР М. І. Дземянцею. Адбылася гутарка, у ходзе якой абмяркоўваліся пытанні, што цікавяць абодва бакі.

Госці агледзелі выдатныя мясціны беларускай сталіцы, наведалі ВДНГ БССР.

(БЕЛТА).

# АРЫЕНЦІР—АГУЛЬНАЧАЛАВЕЧЫЯ КАШТОЎНАСЦІ

**У беларускім парламенце, як, відаць, і ў любым іншым, пытанні парадку дня «праходзяць» па-рознаму. Адны — гладка і памяркоўна з боку народных дэпутатаў; іншыя — з «боем», пасля гучных спрэчак і дэбатаў, у якіх, іншы раз, выбраннікі народа не саромеюцца ў падборы слоў і аргументаў. Што ж, колькі людзей — столькі і думак, ідэй, меркаванняў... Шкада толькі, што нярэдка залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета БССР захліствоаюць і залішнія эмоцыі...**

***На сесіі Вярхоўнага Савета БССР***

Да абмеркавання пытання аб праекце Закона Беларусі «Аб адукацыі ў Беларускай ССР» раўнадушных, здаецца, зусім не было. І не без падстаў: кожны вучыўся калісьці сам, у большасці вучацца дзеці ці ўнукі, некаторыя ж — вучаць іншых ці маюць непасрэдныя адносіны да гэтага складанага і, скажам шчыра, часам няўдзячнага працэсу. Словам, сказаць што было кожнаму. І народныя дэпутаты не маўчалі...

Праект новага Закона ў першым чытанні прадстаўляў прысутным назначаны два тыдні назад на пасаду намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР Міхаіл Дзямчук, які да гэтага займаў пост міністра народнай адукацыі. Ён, натуральна, ведае моцныя і слабыя бакі галіны, яе скіраванні ў дзень будучы. Больш таго, Міхаіл Іванавіч прымаў і непасрэдны ўдзел у распрацоўцы праекта Закона. Справа ў тым, што над ім адначасова працавалі два творчыя калектывы— Камісія Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны і камісія Міністэрства народнай адукацыі Беларусі. Праект прайшоў экспертызу на самых розных узроўнях — ад настаўнікаў, выкладчыкаў ВНУ — да дзяржаўных органаў, у тым ліку міністэрстваў юстыцыі і фінансаў.

Што ж новага ўвабраў у сябе Закон, на якія пазіцыі наогул арыентуе ён наша грамадства цяпер, на складаным і супярэчлівым этапе яго развіцця? Многае ў ім, адзначыў М. Дзямчук, не нейкі тэарэтычны пошук, а ўжо рэальнае асэнсаванне таго, што на працягу некалькіх гадоў робіцца ў сістэме Міністэрства народнай адукацыі БССР, што знайшло падтрымку ў настаўнікаў, дзяцей, бацькоў, увогуле — у шырокай грамадскасці.

Галоўны, бадай, момант, які замацоўвае новы законапраект, гэта адзін з прынцыпаў нашага суверэнітэту — стварэнне ўласнай незалежнай нацыянальнай сістэмы адукацыі. Гэта значыць, такой сістэмы, якая будзе мець свой уласны твар і, разам з тым, засвоіць, калі здолее — разаўе лепшыя адукацыйныя ўзоры сусветных сістэм.

Задача складаная — што тут і казаць. Мы замахваемся, нарэшце, не на нешта аморфнае, штучна прыдуманае ў цішы кабінетаў ці «прапанаванае» зверху тым ці іншым «мудрым» кіраўніком... Мы бяромся, у рэшце рэшт, за тыя напрамкі і шляхі адукацыі і выхавання падрастаючага пакалення, якія ажыццяўляюць і на якіх трывала стаяць — і ўжо не адно дзесяцігоддзе — ва ўсім цывілізаваным свеце.

Уважліва — не адзін дзень— вывучаў і я праект новага Закона. Меў магчымасць абмяняцца думкамі аб ім з многімі народнымі дэпутатамі БССР, асобнымі кіраўнікамі міністэрстваў і ведамстваў, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да гэтай сферы (хоць, прынамсі, скажыце: а хто з нас не мае да яго гэтага дачынення?!), грунтоўна гутарыў і з самім Міхаілам Іванавічам Дзямчуком. І з усімі прыходзілі да высновы: законапраект не толькі цікавы і дакладны, з яснымі фармуліроўкамі і палажэннямі, але і адпаведны менавіта **нашай, беларускай школе адукацыі.** Правы і абавязкі і тых, хто вучыцца, і тых, хто вучыць і выхоўвае маладое пакаленне, у ім дакладныя, зразумелыя, адпаведныя — няхай гэта не прагучыць шаблонна і банальна — духу і патрабаванням часу.

Вось, скажам, першы раздзел Закона. Агульныя палажэнні дакумента замацоўваюць асноўныя прынцыпы дзяржаўнай палітыкі ў галіне адукацыі. Тут ясна і выразна сфармуляваны нашы імкненні, а больш дакладна — арыенціры: агульначалавечыя каштоўнасці, нацыянальная аснова, навуковасць, гуманізм, экалагічная накіраванасць, заахвочванне таленту і г. д. Сярод мэт адукацыі — выхаванне свядомай павагі да дэмакратыі, садзейнічанне ўсталяванню чалавечнасці і міласэрнасці сярод людзей, фарміраванне і ўзмацненне нацыянальнай свядомасці грамадзян Беларускай рэспублікі. Акрэсліваюцца тут і прынцыпы ўзаемадзеяння сістэмы адукацыі з навукай, вытворчасцю, упершыню ўведзены прынцып узаемаадносін адукацыі і экалогіі, што для нашага краю вельмі важна. Да гэтага заклікае Чарнобыль...

Законапраект прапаноўвае зафіксаваць: усе навучальныя ўстановы на тэрыторыі Беларусі ўваходзяць у нацыянальную сістэму адукацыі. Абгрунтавана і прызнанне новых тыпаў навучальных устаноў: гімназій, ліцэяў, каледжаў. Сістэма адукацыі ўпершыню будуецца як бесперапынная, асновай у ёй з'яўляецца інтэграцыя розных адукацыйных ступеняў з максімальна гнуткімі лагічнымі пераходамі ад адной ступені да другой.

Як гэта будзе выглядаць на практыцы? М. Дзямчук растлумачыў: у Законе ўпершыню замацаваны двухступенны ўзровень падрыхтоўкі ў вышэйшай школе. Першая ступень — вышэйшая агульнаадукацыйная падрыхтоўка, другая — вышэйшая спецыяльная. Гэта дае магчымасць увесці не толькі глыбокі дыферэнцыяваны падыход у падрыхтоўцы спецыялістаў для народнай гаспадаркі, але і выйсці на міжнародную практыку сертыфікацыі дыпломаў. Таксама ўпершыню зроблена цесная ўвязка сістэмы падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі з рынкам працы.

Закладваецца ў законапраекце і механізм пабудовы муніцыпальных адукацыйных структур. А галоўнае, несумненна, тое, што ва ўсіх без выключэння пытаннях адукацыйнай палітыкі прыярытэт застаецца непасрэдна за рэспублікай.

Найбольшую заклапочанасць у распрацоўшчыкаў праекта Закона, аб чым гаварылі яны мне ў час гутарак, выклікае праблема фінансавання народнай адукацыі Беларусі. Цяпер, дарэчы, на гэтыя патрэбы ідзе дзесьці каля 7,5 працэнта нацыянальнага даходу. Мала гэта — што і казаць! У новым дакуменце ў народных дэпутатаў «папрасілі» павялічыць гэты памер да 10 працэнтаў. Дарэчы, практычна ва ўсіх удзельнікаў абмеркавання законапраекта гэта знайшло паразуменне і падтрымку. Зазначу, што ў прынятым ужо Законе БССР «Аб культуры ў Беларускай ССР» на патрэбы той галіны ўзаконена выдаткаванне 3 працэнтаў, і калі ў другім чытанні Закона аб адукацыі пройдзе 10-працэнтнае адлічэнне з даходу на яе патрэбы — у Беларусі ёсць у перспектыве шанц выйсці на ўзровень сярэднееўрапейскага развіцця ў гэтых важных сферах агульначалавечай дзейнасці.

Ну, а зараз, бадай, аб тым, што выклікала на апошнім пасяджэнні чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР ажыўленае, а часам і даволі рэзкае абмеркаванне. Гэта 12-ы артыкул праекта Закона, які датычыцца адукацыі і палітычнай дзейнасці ў яе сферы. Парламенцкая камісія прапанавала норму, у адпаведнасці з якой ва ўсіх без выключэння навучальных установах забараняецца арганізацыя і дзейнасць палітычных партый і аб'яднанняў. Нашы аргументы, сказаў М. Дзямчук, супраць увядзення гэтага артыкула наогул. Папершае, закон не можа ставіцца над канстытуцыйным правам грамадзян ці адмяняць гэта права. Па-другое, калі мы спрабуем адысці ад запалітызаванасці навучальнага працэсу, то нам перш за ўсё трэба прадугледзець у законе такі механізм, які б абараняў адукацыю ад манаполіі адной палітычнай ідэалогіі. У праекце Закона «Аб адукацыі ў Беларускай ССР» такі механізм ёсць: у адным з артыкулаў запісана, што асобы, якія ажыццяўляюць кіраванне органамі адукацыі і адукацыйнымі ўстановамі, у сваёй службовай дзейнасці кіруюцца толькі патрабаваннямі закона і не звязаны з рашэннямі палітычных партый і іншых аб'яднанняў, якія маюць палітычныя мэты. А ў другім артыкуле занатавана, што светапоглядная падрыхтоўка вучняў і студэнтаў ажыццяўляецца з улікам разнастайнасці ідэалагічных канцэпцый сусветнай грамадскай практыкі і права кожнага чалавека на ўласныя думкі, ацэнкі, меркаванні.

Старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч, гаворачы аб 12-м артыкуле, заначыў, што адзінай думкі адносна яго ў членаў камісіі не было. «Асабіста я,— падкрэсліў Ніл Сымонавіч, — не падзяляю змест яго. Пры ўсёй павазе да дэмакратызацыі і плюралізму, тут не ўсё ясна. Мне так і не зразумела: ці гэта наіўнасць, ці гэта хітраванне... Жыць у любым чалавечым грамадстве і думаць, што можна абстрагавацца ад палітыкі, — я такога не ўяўляю. Не было такога і не будзе. Я лічу, што мы павінны клапаціцца пра нават досыць высокі ўзровень палітычнай свядомасці нашых маладых людзей».

Шмат было аргументаў, довадаў, пярэчанняў пры абмеркаванні законапраекта, але найбольш — па яго 12-му артыкулу. Спадабалася ўсім думка Яўгена Цумарава аб тым, што Беларусь мае вельмі моцныя традыцыі класічнай адукацыі, пачынаючы яшчэ з часоў Ефрасінні Полацкай, і іх неабходна захаваць. Зінаіда Пянькова зазначыла: галоўная задача грамадства — не ў адхіленні моладзі ад палітыкі, а ў якасным абнаўленні працэсу фарміравання ў юнакоў і дзяўчат палітычнай культуры. Па цвёрдаму перакананню Аляксея Камая, у дыханні 12-га артыкула адчуваецца праследаванне іншадумцаў, фактычная забарона на прафесіі настаўніка, выкладчыка — па палітычных матывах. А вось народны дэпутат Аляксей Сцепаненка прапанаваў прыняць дакумент не толькі ў першым, а і ў другім чытанні, бо, на яго думку, літаральна неўзабаве настаўнікі ўслед за іншымі спецыялістамі пабягуць ад нас на Захад. «Дэпартызацыя і дэпалітызацыя школы — гэта вытраўліванне з яе ўсяго савецкага», — падкрэсліў ён.

Народныя дэпутаты БССР Васіль Трафіменка, Міхаіл Мачуленка, Уладзімір Кудлаш прапаноўвалі зняць 12-ы артыкул ужо ў першым чытанні законапраекта. Аднак гэта пярэчыць Часоваму рэгламенту работы парламента. Карэктывы ў спрэчку ўнёс Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Мікалай Дземянцей: што — зняць, а што — пакінуць — гэта будзем рабіць пры другім чытанні.

Даць маладому пакаленню сапраўды шырокую і ўсебаковую адукацыю, далучыць, нарэшце, да агульначалавечых каштоўнасцей і нашых людзей —вось у чым, на маю думку, найпершая задача новай беларускай школы адукацыі. І, як кажуць, дай Бог, каб яна, нарэшце, запрацавала!

**Анатоль МЯСНІКОЎ, кандыдат гістарычных навук.**

***ПУНКТ ПОГЛЯДУ***

# А ЦІ БАЧЫМ МЫ МЭТУ?

**Людзі даўно задаюць сабе пытанне: што ж будзе з краінай, з нашай рэспублікай, раёнам? Куды, нарэшце, ідзём, калі пачнём ісці ў зразумелым усім накірунку?**

Гэтыя пытанні пастаянна чую і я на сустрэчах у калектывах працоўных. Гэта, прынамсі, і прымусіла ўзяцца за пяро, каб падзяліцца з чытачамі «Звязды» ўсім, што хвалюе і непакоіць...

Тое, што ў недалёкім 1985-м наша краіна пачала паход у нікуды, сёння не сакрэт. Шмат, вельмі шмат было лозунгаў і мітынгаў, заяў і спрэчак — хапае гэтага ўсяго і зараз, але ніхто ж не сказаў і па сённяшні дзень: што ж мы хочам стварыць? І ў краіне, і ў рэспубліцы. Мы чакалі, што праясніць што-кольвечы чацвёртая сесія Вярхоўнага Савета БССР, аднак да гэтага часу там уладарыць кансерватызм. Калі народныя дэпутаты не радыкалізуюць вырашэнне пытанняў, у народа не застанецца ўжо і аптымізму...

Мне могуць запярэчыць: крытыкаваць лягчэй. А што ты прапануеш?

Першае, што, на мой погляд, неабходна, гэта сапраўдная ўлада і механізм выканання законаў, указаў, а таксама — адказнасць за іх выкананне. Скажаце: а хіба гэтага няма? Вядома, знешне ёсць, але ж органы ўлады напоўнены закасцянелымі апаратчыкамі, сярод якіх мала людзей ініцыятыўных, радыкальна настроеных, здольных у цяперашніх умовах кіраваць. Патрэбна ж дакладная, усім зразумелая ўлада з мінімальным апаратам дзелавых, рашучых, маладых кіраўнікоў, якія не баяцца рызыкаваць, умеюць хутка аналізаваць і прагназіраваць абстаноўку.

Сённяшні ўрад, на мой погляд, таксама не зусім адпавядае гэтым патрабаванням.

Не сакрэт: у апаратах міністэрстваў і ведамстваў сёння большасць людзей здольныя насіць паперы, узгадняць і пераўзгадняць дадзеныя ім даручэнні... Ім, як правіла, далёка за пяцьдзесят. Куды мы з імі? Што маглі, яны ўжо зрабілі і на большае проста не здольныя. Рызыкаваць жа, браць на сябе адказнасць, адстойваць пункт гледжання — ратуй Божа: да пенсіі дажыць жа трэба, а калі вызваляць — рабіць жа нічога больш не ўмею... А калі ўлічыць, што большасць з такіх аматараў кабінетаў трапіла ў іх не па здольнасцях, а па пратэкцыі, па тэлефоннаму званку... Вось і «дабудоўваюць» яны сёння сваё асабістае жыццё і толькі ў прамовах ды гутарках выказваюць заклапочанасць становішчам народа, не робячы для паляпшэння яго абсалютна нічога.

Вазьму тое, што бліжэй мне за ўсё — структура райвыканкома. Намеснік па рабоце Саветаў, кіраўнік спраў, загадчык аргаддзела адказваюць практычна за адно і тое ж. Альбо— намеснік старшыні, які курыруе народную адукацыю, медыцыну, культуру, фізкультуру, гандаль—ці патрэбен ён? Кожны, лічу я, павінен сёння асабіста адказваць за даручаны ўчастак работы — без усялякіх бюракратычных надбудоў. А, скажам, апарат РАПА ці ў недалёкім будучым — упраўленне сельскай гаспадаркі са штатам звыш 20 чалавек... Ці патрэбен ён у цяперашніх умовах? Хапіла б аддзела райвыканкома ў складзе 3—5 чалавек, а службы аграноміі, інжынерная, эканамічная і іншыя—на гасразлік. Гэта значыць, узяла б тая ці іншая гаспадарка на ўзбраенне распрацоўку ці рэкамендацыю для канкрэтнай справы, дасягнула пэўнага выніку — атрымлівай і распрацоўшчык той рэкамендацыі сваю долю... Так жа, прынамсі, і робіцца ва ўсім цывілізаваным свеце.

А РАНА, яго інспектары і метадысты?! А планавая камісія — статысты, а не прагназісты і аналізатары?! Колькі такіх «службаў» можна сёння налічыць!

Нядаўна меў магчымасць пазнаёміцца са структурай органаў выканаўчай улады Магілёўскага абласнога Савета. Руціна, страшэнны кансерватызм... Апарат жа ніводнай сваёй думкі аб нейкай там рэарганізацыі, хоць якім бы ўдасканаленні так і не прапанаваў. Дык куды мы так прыйдзем? А ў тым апараце, дарэчы, ёсць здольныя людзі, але рашучасці і радыкалізму іх не бачна. Без гэтага ж мы нічога новага не дасягнем.

Вось і атрымліваецца: будзем па-ранейшаму беднымі і паўгалоднымі, затое з поўнымі кабінетамі; з кіраўнікамі, якія толькі на словах дбаюць аб народным дабрабыце. Затое як бліскуча ўмеюць яны адстойваць свае пасады, даказваць, што, маўляў, без іх усё праваліцца...

Прыдумалі мы і сацыялістычны рэгулюемы рынак, а вось ніхто толкам сказаць не можа— што ж гэта такое? Рынак ёсць рынак. І гэта трэба, нарэшце, зразумець: і ЦК, і абкомам, і райкомам, і іншым кіраўнічым структурам — рынак мае свае аб'ектыўныя законы, і ад іх мы нікуды не падзенемся. Грэбуючы імі — што і рабілі мы «з поспехам» больш чым 70 гадоў, — зноў зойдзем у тупік, толькі яшчэ большы, чым раней. Вяртання да жорсткай адміністрацыйна-каманднай сістэмы няма. Ды і трымалася яна, на маю думку, акрамя жорсткасці і ўсёмагчымасці кіраўнікоў, яшчэ і на галоўным эканамічным стымуле — сыравіне

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

